


Мікола ГІРГЕЛЬ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## Думкі ўголас

Жанчына называе мужа рыбкай толькі дзеля таго, каб зручней было трымаць за жабры.

Мужчыны! Калі хочаце заваяваць сэрца дзяўчыны, не дарыце ёй кветкі, а лепш прэзентуйце завушніцы. Памятайце: жанчына кахае вушамі.

Жаночая слабасць з'яўляецца больш грознай зброяй, чым мужчынская сіла.

Якое надвор'е можа быць дома, калі жонка ходзіць чарнейшая за хмару? Чакай буру!

Жанчына падобная да веснавога сонейка: свеціць усім, а вось сагравае не кожнага.

Калі жанчына завіхаецца як пчолка, у каго павернецца язык сказаць, што яна паходзіць ад малпы?

Калі дзяўчына па-д'ябальску прыгожая, ці значыць гэта, што яна — параджэнне нячысціка?

Жанчына даверлівая і падазроная адначасова: верыць абяцанню, што яе мужчына можа дастаць зорку з неба, але, разам з тым, беспадстаўна абвінавачвае яго ў чарговай здрадзе.

**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

## Філалагічныя замалёўкі

Гэтыя двое маладых людзей з'яўляюцца *аўтарамі* яшчэ некалькіх злачынстваў.

*Мультымудыйная* рэклама.

*Цыцбуля.*

Уначы *месяцамі*, а ўдзень паўсюдна чакаецца кароткачасовы дождж.

Міністр дзяржаўнага скарбу.

Трусы, якія з майго балкона перанесла ветрам на суседскі, сталі прычынай разводу.

*Пакараць* свет сваім талентам.

Прызначаны дадатковы цягнік. Час *апраўлення* — 8.45.

Гаворка ідзе пра палігон цвёрдых бытавых адходаў коштам амаль у 1 млрд рублёў, які быў здадзены ў эксплуатацыю ў снежні.

Фарміруючы куст, пакідаюць 2—3 *уцёкі.*

**Уважліва чытаў перыёдыку**
**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ,**
*г. Мінск.*



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.




## Мужу навука

— Мой Кастусь пайшоў у блуд, —
Кажа Ганна Раі. —
З маладухай, шалапут,
Круціцца-гуляе.
Слёзы коцяцца ракой,
Счырванелі вочы:
— Караліха, ліха ёй,
Мужа ўкрасці хоча!

— Вернеш любага дамоў, —
Так сяброўка раіць. —
Дах цячэ ў вас шмат гадоў,
Мой сусед паправіць.
Кліч яго не абы-як,
Запрасі ласкава.
Пётр Іваныч — халасцяк,
Вось такая справа...

Ганне ўжо за... сорак пяць,
Ды гады забыты.
З майстрам гутараць сядзяць,
Ладны стол накрыты.
Кастусь ледзьве не самлеў,
Як вярнуўся з працы:
Няўжо халасцяк пасмеў
Так вось заляцацца?
Жонку стаў ён пільнаваць,
Зелянець ад злосці.
Ды дарогу забываць
Да каханкі ў госці.

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*

**Ганад ЧАРКАЗЯН**

# НАДЗЕЯ ЗАСТАЕЦЦА



*Іранеска*

Спусціўшыся ў метро, я прычакаў цягнік і зайшоў у вагон. Дзверы тут жа зачыніліся. Моцна ўхапіўшыся за поручань, я пачаў шукаць вачыма вольнае месца. Усе лаўкі былі заняты моладдзю са слухаўкамі, планшэтамі і смартфонамі з падобнымі на вушы спаніэля чахламі. Адны сядзяць у нейкіх гульнях, другія размаўляюць па тэлефоне, трэція слухаюць музыку. Кожны з іх бавіць час у сваёй віртуальнай прасторы.

І раптам за два крокі ад мяне падскоквае разгубленае дзеўчанё, пры гэтым пад ногі ляцяць яе грымлівыя слухаўкі, і нечакана ляпеча:

– Сядайце, калі ласка...

Юнак, што сядзіць побач з ёй, хітра ўсміхаецца.

– Дзякуй, прывык стоячы ездзіць, – адказваю я.

Нечакана ўсе пасажыры вагона нібы па камандзе пачынаюць здымаць свае слухаўкі і іншыя правады-«даспехі». Складваючы іх у сумкі, яны энергічна перашэптваюцца між сабой. Пры гэтым вачыма ледзь не паядаюць няшчасную дзяўчыну. Цяпер яна знаходзіцца пад увагаю ўсяго вагона. Неўзабаве аб'яўляюць маю станцыю. Расчырванелая дзяўчына выскоквае на перон. Я выходжу ўслед за ёй, не менш ашаломлены здарэннем. Вядома ж, дзіўна: маладая асоба сярод белага дня саступае месца ў транспарце чалавеку ў гадах. Выходзячы з метро, чую, як той самы хлопец з вагона ўзрушана даводзіць свайму сябру:

– Ты бачыў? Знайшлася каза! Прыкідваецца культурнай і выхаванай! Усе сядзяць, а яна яшчэ месца некаму саступае. Трэба ж!..

На працы я распавёў гэтую гісторыю. Але ніхто не паверыў, што такое магло здарыцца. Усхваляваная Вера Восіпаўна адкрыта заявіла:

– Сынок, не расказвай небыліцы. Раней толькі адзін з тысячы боўдзіла мог не саступіць месца пажылому чалавеку, а цяпер толькі адзін з тысячы і саступіць... Але ты не хвалюйся, беражы сябе.

На ўсялякі выпадак яна прыклала далонь да майго ілба.

– Можа, тэмпература ў цябе? Надвор'е няўстойлівае зараз. Таму небыліцы і мрояцца.

Дыягназ Веры Восіпаўны не пацвердзіўся. Перад вачыма ўсё яшчэ быў свежым малюнак у метро. Было крыху крыўдна, што мне не паверылі. Яшчэ і ў лік старых бурчуноў запісалі.

А на наступны дзень унучка паскардзілася, што класная ў школе не паверыла ёй пра выпадак з дзедам і папрасіла мяне самога расказаць пра ўсё перад вучнямі. Я згадзіўся. Цікава было назіраць за тварамі дзяцей, калі я прыгадваў тое, што мяне ўстрывожыла. Пра сустрэчу гэтую паведаміла радыё, напісалі газеты.

Але самае цікавае чакала мяне пасля. Вядомы тэлежурналіст нейкім чынам адшукаў хлопца, які сядзеў у той незабыўны дзень побач з дзяўчынай, што саступіла мне месца. Як высветлілася, жартаўнік проста пагладзіў ёй спінку. Вось чаму яна падскочыла са свайго месца і прапанавала мне сесці.

Дзякуючы перадачы юнак стаўся зоркай экрана. А я задумаўся. Можа, гэта я настолькі адстаў ад жыцця?..

**З курдскай.**
**Пераклад Казіміра КАМЕЙШЫ.**

**Віктар КУНЦЭВІЧ**

## Сакавік

Сакавік-браток
Снег нагамі тоўк.
Басанож таптаў –
Снег забулькатаў.
Брудная рака
З ног сакавіка
Па зямлі цячэ
З кожным днём шпарчэй.
І прыйшлі дажджы,
Сталі кроплі біць
Ў брудную раку,
Ў лоб сакавіку.
Просіць сакавік:
«Дайце мне ручнік!»




# Хітрая доктарка

*Гісторыйка*

Вольга Сцяпанаўна працавала ў вёсцы зубным урачом. Спачатку здымала пакой. А потым, сабраўшы грошай, купіла сабе хату. Пасадзіла чарэшні, яблыні, грушы, розныя кветкі. У хуткім часе яе сядзіба стала самай прыгожай не толькі на вуліцы, але і ва ўсёй вёсцы.

У суседзяў таксама побач з домам быў участак, па плошчы нават большы, чым у Вольгі Сцяпанаўны. Вось толькі на ім красаваліся не ружы, а асот. Ды такі пышны і вялікі, што за ім не было відаць, што расце ў агародзе: бульба, буракі ці фасоля. Гэтае пустазелле так і імкнулася пералезці на падворак доктаркі. Скардзіцца на суседзяў было не ў характары жанчыны, бо не хацела псаваць з імі ўзаемаадносіны. Таму пайшла Вольга Сцяпанаўна да гаспадара і прапанавала:

– Добры дзень, Карней Іванавіч! Прадайце мне, калі ласка, ваш асот.

Мужчына здзіўлена паглядзеў на Вольгу Сцяпанаўну і адказаў.

– Ды забірай яго за так, калі трэба. Навошта ён мне?

– Не, вось вам грошы, купіце сабе хоць бы пачак цыгарэт.

Яна падзякавала збянтэжанаму Карнею Іванавічу і пайшла. Дома ўзяла серп, посцілку, зрэзала ўсё пустазелле і аднесла на сметнік.

На наступны год асоту стала менш, але ўсё роўна ён пачаў разрастацца. Вольга Сцяпанаўна зноў прыйшла да суседа з той жа просьбай. На гэты раз той запатрабаваў ужо некалькі пачак цыгарэт і пляшку гарэлкі. Доктарка згадзілася, збегала ў краму па «аплату», а потым зноў зрэзала ўсё пустазелле.

На трэці год Карней Іванавіч хадзіў па агародзе і шукаў парасткі асоту. Яму зноў хацелася атрымаць які-небудзь «прэзент» ад суседкі. Але пустазелле калі і расло, то было зусім кволае. Мужчына паглядзеў на свой агарод і з крыўдай у голасе прамовіў:

– Вось я дурань, трэба было больш грошай браць! Цяпер жа, калі ў мяне няма асоту, падарунка не дачакаешся. Вось хітрая доктарка!

**Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён,*
*в. Пірэвічы.*




**Іван КАРЭНДА**

## Уважлівы чытач

– Што ні радок у вас, паэтаў, –
Адно і тое ж: пра душу.
Якую ставіце вы мэту?
Я тлумачэнняў папрашу.
«Душа баліць...», «душа спявае...» –
Хто вас без чаркі разбярэ?
Душа, па-вашаму, жывая?
У вас, напэўна, перагрэў...
Ніхто яе, душы, не бачыў,
Нідзе, ніколі не сустрэў!..
Прашу прылюдна растлумачыць,
Хто чуў калі той самы спеў?

Вось так спытаў мяне аднойчы,
Што цвік загнаў па плешку ў лоб,
Чытач падчас сустрэчы творчай –
З паэтаў нібы стружку скроб.
Сказаў – і сеў на стул скрыпучы.
Па зале хваляю пабег
Спачатку ціхі, потым гучны
Усеагульны рогат-смех.

Што адказаць за ўсіх паэтаў,
Не ведаў я – хоць стой і плач.
А ў зале, смехам перагрэтай,
Чакаў адказу мой чытач.
Я адчуваў сябе студэнтам –
Вось-вось экзамен правалю...
Не перажыць мне, мабыць, гэта...
І не схавацца ж пад зямлю!

Маўчала зала, як нямая,
Нібы набраўшы ў рот вады...
– Мо, хтосьці з вас шпаргалку мае? –
Спытаў я ціхенька тады.
Мяне, «студэнта», зразумелі:
Не знаць адказ – зусім не грэх!
Загаманілі, зашумелі –
Зноў з залы ў твар мне пырснуў смех.

Смяяўся шчыра ў зале душнай
І ён, вусацік-барадач,
Аматар лірыкі бяздушнай –
Мой самы ўважлівы чытач.






Лёля БАГДАНОВІЧ

# Хочацца цяпла

Намяла зіма сумётаў
Ды прысела каля плоту –
Адпачыць, відаць, хацела.
Тут сарока прыляцела,
Села побач каля зімкі,
Не маўчала ні хвілінкі.
Часу марна не губляла –
Ўсе навіны расказала.
Балбатала, стракатала
Шчэ і ўпрысядкі скакала –
Затлуміла галаву.

Я сароку пазаву,
Дам кавалачак ёй сала,
Каб вясну хутчэй гукала.
Не крыўдуй, зіма, не трэба,
І не злуйся напаследак.
Досыць снегу намяла,
Вельмі хочацца цяпла!

*г. Барысаў.*




Стаіць Ілля на раздарожжы, а перад ім камень. На ім надпіс:

Прама пойдзеш – каня страціш,

Направа пойдзеш – галаву згубіш,

Налева пойдзеш – дома прыб'ю. Твая Васіліса.

**Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*












Алег ПАПОЎ х 4.




# Свіналеў

*Байка*

Пра тое, як жаніўся Леў,
Гадоў мо з пяць наш лес гудзеў.
Абраў ён жонкаю не Львіцу,
Сярод усіх звяроў царыцу,
А рыжамордую Лісіцу.
Ну, як душой тут ні крыві,
А ўсё ж блакітнай Леў крыві.
Вяселле загуло чын-чынам.
Там ліку не было машынам
І з шумам пад'язджаў картэж
Пад львіны новенькі катэдж.
Ў нявесты — вэлюм, дыяманты,
Тут — тамада, там — музыканты.
Віно, шампанскае ракой,
Усе закусвалі ікрой...

Ў мядовы месяц маладыя
Паехалі ў краі чужыя.
У лес вярнуўшыся да году,
Чакалі львінага прыплоду.
Прыйшоў той час!
Пабольшаў статак!
Ажно на восем... парасятак.
Лісы зваротлівасць цаню:
І Льву падкінула свінню.
Цар памаркотнеў, пасівеў,
Бо стаў для ўсіх ён — Свіналеў.
***
Па-рознаму ў жыцці бывае:
І Леў, брат, лычык прымярае.

**Любава ВЛАДЫКА,**
*г. Мінск*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Падарункі да свята

*Гумарэска*

У жанчын нашай фірмы ёсць своеасаблівая традыцыя: пасля 8 Сакавіка абмяркоўваць, што ім падарылі іх мужы.

Вось і на гэты раз кабеты заўзята пачалі дзяліцца сваімі ўражаннямі.

– Мой Лёня, як заўсёды, напярэдадні жаночага свята прыйшоў дадому позна і ледзь жывы. Яму ўжо было не да падарункаў! А назаўтра цэлы дзень піў агурэчны расол і спаў! – з абурэннем расказвала Анжэла Пятроўна.

– А мне зноў давялося парушыць сваю дыету і есці торт, – скардзілася Валянціна Тарасаўна, паўнаватая кабета сярэдняга веку, якую калегі жартам (і, безумоўна, употай) называлі «дзюймовачкай». – Мой муж вельмі любіць салодкую выпечку, але ж я такое не купляю, каб не псаваць сваю фігуру. А тут падарунак, бачыце, больш для мужа, чым для мяне, бо сам амаль увесь торт і з'еў!

– На жаль, мой Алежка ўсё яшчэ ў камандзіроўцы, – з сумам паведаміла Дзіяна Валер'еўна, маладая, прыгожая супрацоўніца. – Павіншаваў толькі па тэлефоне, а падарунак – залатыя завушніцы – паабяцаў прывезці пазней...

Яшчэ адна наша калега Ніна Адамаўна ціхенька працавала і не звяртала ўвагі на абурэнні і пахвальбу іншых жанчын. Але ж тыя не ўтрымаліся:

– А чаго ты, даражэнькая, маўчыш? Зноў твой Валодзя забыў пра наша жаночае свята?

– Не, шаноўныя! На гэты раз ён зрабіў мне сюрпрыз: прыйшоў дадому своечасова, цвярозы, з кветкамі, тортам і білетамі ў тэатр!

– Нічога сабе! Вось гэта падарунак! – з зайздрасцю ў голасе амаль хорам усклікнулі жанчыны.

А якія падарункі, паважаныя жанчынкі, робяць вам вашыя другія палovы?

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*



Аляксандр ШМІДТ.

## Ода агульнаму вагону

Едзем. Грукатна і хістка.
Селі. Месца – папалам.
На часовую прапіску
Нас, нібыта пашпартыстка,
Праваднiца прыняла.
Тамбур – месца для абраных,
Дый тут, праўда, «не фантан».
Паліць час дзяўчо ў «бананах»,
Хтось – у фірменных «мантанах»...
Духата.
Між авосек і пакетаў,
Нібы воран на сасне,
Стопудовая кабета,
Ёй багаж – яе планета,
Важна пыхкае ўва сне.
На плячы грамадзяніна
Цэлы венік валасоў.
Ён сваю сяброўку Зіну,
Кантралёрку магазіна,
Толькі што сустрэў-знайшоў.
Пераблыталіся ногі,
Сэрцы б'юцца ва ўнісон...
Ты сапраўдны бог дарогі,
Слаўлю я твае трывогі,
Найагульнейшы вагон.

**Валерый КУХАРЧУК,**
*г. Іванава.*




# Салдат спіць...

*Быль*

«Салдат спіць, а служба ідзе». «Свята, якое заўсёды з табой, — гэта адбой». Вельмі старыя прыказкі. Аднак паўнавартасны сон, на жаль, бывае не заўсёды. На варцы ці ва ўнутраным нарадзе апынуцца ў абдымках Марфея атрымоўваецца рэдка. Але сапраўдны салдат усё роўна спіць.

...На вартавай вышцы ў аўтапарку нашага палка ў сцяну быў забіты цвік-«двухсотка». За яго ноччу вартавы чапляўся каўнерам свайго шыняля і мірна драмаў, павесіўшы АКС на грудзях. Калі прыходзіў час разводу, змены каравула, салдата будзілі ўмоўным пакашліваннем. А правяраючыя — начальнік варты, дзяжурны па палку ці яго памочнікі — на вышку ніколі не падымаліся.

У цёплыя дні на ўсёй тэрыторыі аўтапарка і ў боксах можна было ўбачыць «зілкі», «уралы», «кразы» ды «газоны», з-пад якіх выглядалі па пары, а то і па дзве-тры, салдацкіх ботаў. Раз-пораз пад аўтамабілямі быў чуваць звон металу аб метал, калі-нікалі — моцнае салдацкае слоўца. Але ж у большасці выпадкаў хлопцы ляжалі моўчкі. Бо, прычапіўшы нейкім падручным матэрыялам свае рукі да кардана, дыферынцыяла ці рэсівера, салдаты ціха спалі. Такі «рамонт» выглядаў вельмі натуральна (ну, зразумела, толькі да таго часу, пакуль хто-небудзь не пачынаў занадта моцна храпці).

Калі «малады» («гусь»,«гусіна») — без віны вінаваты. «На тумбачцы» стаяць даводзіцца вельмі доўга. Вось тут і навучышся спаць з незаплюшчанымі вачыма, прыхінуўшыся да сцяны.

Па жыцці такі навык дапамагае! На зборах ад ваеннай кафедры заняткі праводзіліся ў «ленінскім пакоі» дывізіёна з усімі атрыбутамі: партрэты членаў Палітбюро ЦК КПСС, баявы шлях часці ды таму падобнае. Хто служыў у тыя часы, ведае: няхай ты напярэдадні праспаў суткі, але ж, трапляючы ў «ленінскі пакой», амаль імгненна «адключаешся». Вось і ў мяне спрацаваў гэты ўмоўны рэфлекс, толькі вочы не заплюшчыліся. Выкладчык ад такога нахабства нават прозвішча маё забыўся. Выклікае суседа раз, другі, трэці, але не той студэнт устае! Урэшце хлопцы мяне ў рэбры тыцнулі, і ўжо калі палкоўнік прозвішча згадаў, я быў гатовы і адказаў.

Салдат спіць, а служба ідзе...

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




Пётр КОЗІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

**Раіса ДЗЕЙКУН**

# Цешча-дэтэктыў

*Гумарэска*

Пятру Леўшыку не пашанцавала з цешчай. У яе быў дужа доўгі нос, які пры кожным зручным моманце лез у справы маладой сям'і. Яна магла заглядваць куды толькі ўздумаецца. Нават самы «святы» для мужчын куток — гараж — таксама трапляў у спіс месцаў, дзе зяць утойвае рэчы, якія могуць нашкодзіць. У гэтай справе цешча была сапраўдным дэтэктывам, які зазірае ў кожную дзірку і шукае доказы сваіх меркаванняў. А такіх было шмат.

Цешча кантралявала кожную выпітую зяцем чарку, «штрафавала» за сказанае «народнае» слова, імкнулася знайсці сляды нявернасці, прыхаваныя грошы і яшчэ бог ведае што, абы толькі злавіць на гарачым небараку і добра правучыць. Кожны раз, як жанчыне трапляліся на вочы рэчы-доказы накшталт бутэлькі піва, чуўся поўны зларадснага трыумфу яе прарэзлівы голас: «Ага, я ж табе казала, — звярталася яна ўжо да дачкі, — што ён такі-сякі, а ты не верыла!»

Жонка Пятра пад націскам маці пачынала сварку, у якой цешча на правах галоўнай сведкі прымала гарачы ўдзел. Але маладыя хутка мірыліся, і жанчына зноў апыналася на задворках іх увагі. З цягам часу зяць стаў вельмі асцярожны, і няўрымслівая цешча амаль не знаходзіла нават мізэрных правіннасцей зяця.

Тады яна пачала сама падкладваць «рэчавыя доказы» ў аўтамабіль зяця. Аднаго разу гэта аказалася прыхаваная ім ад жонкі грашовая купюра (адшчыкнутая цешчай са сваёй жа пенсіі), потым памада, якую «забыла» яго палюбоўніца.

Пад такімі «бясспрэчнымі» доказамі жонка пачала паддавацца матчынаму націску, і для Леўшыка наступілі зусім бязрадасныя дні. Бедны зацюканы Пятро не ведаў, куды яму падзецца ад сварлівай цешчы, папрокаў і абвінавачванняў жонкі. Але праблему вырашыў адзін выпадак.

Пасля паездкі ў горад Пятро паставіў аўтамабіль у гараж і пайшоў да суседа дамовіцца паехаць разам на рыбалку. Бо мужчыну дужа хацелася крыху адпачыць ад цяжкай дамашняй атмасферы.

А цешча ў гэты час якраз цікавала з акна і, пабачыўшы зяця, пачала скардзіцца дачцэ:

— Вунь твой з'явіўся. Мусіць, з півам, бо штосьці доўга не выходзіў з гаража, а потым пашыбаваў да суседа Максіма. Няйнакш з бутэлькай у кішэні, — прагаворвала яна ўслых.

А потым не вытрымала, выйшла з дому — і хуценька пабегла ў гараж, лазіць па ўсіх яго закутках. Нічога падазронага не знайшоўшы, цешча засунула падрыхтаваную бутэльку гарэлкі ў рыбацкія боты Пятра, а ў заплечнік шматок сала. З гэтымі доказамі і пабегла жаліцца дачцэ.

Ведала б жанчына, што яе нялюбы зяць забыў адключыць... відэарэгістратар. Той сабе і запісваў усё падрад: што трэба і не трэба.

Зяць, які вярнуўся ад суседа, заўважыў, што відэа працягвала здымацца, таму вырашыў прагледзець. Хто ведаў, што з-за сваёй няўважлівасці ён атрымае такі нечаканы «падарунак» — электроннага сведку паклёпу. Пятро аж падскокваў ад радасці, калі ішоў дамоў. А там «любая» цешча ўжо была ў поўнай, як кажуць, баявой гатоўнасці:

— Дык куды гэта ты сала зносіш з дому? А з кім гэта ты планаваў яго з'есці? З палюбоўніцай?

Нічога не кажучы, Пятро падазваў жонку і ўключыў свайго выратавальніка. Пабачыўшы ў руках зяця «тую штуку, што ўсё запісвае на дарозе», цешча зразумела, што на гэты раз яе падман выкрыты. Раптоўна яна ператварылася ў сапраўдную спагадлівую лісу:

— Слухай, дарагі зяцёк, я гэта з добрым намерам, за сям'ю тваю клапацілася, за дачку перажывала, баялася, што ты палюбоўніцу сабе знойдзеш. Ты ж у мяне залаты, больш няма такіх!

Пасля гэтага выпадку цешча стала як шаўковая, увесь час толькі хваліла Пятра. Ды гараж яна стала абыходзіць, як кажуць, дзясятай дарогай. А Леўшык толькі радаваўся такім раптоўным зменам і лёгкай атмасферы ў доме.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Мікола ГІРГЕЛЬ.




Віктар КОХАН.

# Анекдоты

2060 год. Вяртаешся дадому пасля экскурсіі на Марс, здымаеш экзашкілет, даеш ванне ўказанне напоўніцца, тэлепартуешся ў спальню. Капіруеш з галавы на флэшку ўспаміны з экскурсіі. Затым залазіш у ванну, а яна ледзяная. Бо ты зусім забыўся, што на два тыдні адключылі гарачую ваду...

* * *

Жонка накупіла ў салоне розных касметычных сродкаў і цэлы дзень імі націраецца.

Увечары прыходзіць муж з працы, яна пытаецца:

– Зірні-ка на мяне. Колькі гадоў дасі?

– Ну, твар – гадоў на 20, валасы – на 18, рукі – 25 ...

– Ох, ліслівец!

– Пачакай, я яшчэ не падсумаваў.

* * *

У ланцужку «Мужчына сказаў – мужчына зрабіў» часам адсутнічае «Мужчына падумаў».

* * *

– Вашы старыя дзверы зусім хісткія, замок на іх за хвіліну б узламалі, – кажа гаспадару кватэры майстар па ўстаноўцы дзвярэй.

– А гэтыя? – пытаецца той у адказ.

– Гэтыя добрыя, над імі злодзеі пару хвілін падумалі б.

**Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*




Алег ПАПОЎ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Пётр КОЗІЧ.

**Янусь МАЛЕЦ**

## Крэда крытыкана

Крэда крытыкана-зуха:
Прыніжаць слана да мухі
І рабіць наадварот,
Як пра свой ён піша род.
Ды пакуль сваячак-мушак
Не прыўзняў і да цялушак,
Бо, папраўдзе, крытыкан –
Малаздольны графаман.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## Страсці па музе

Не да кожнага члена Саюза
Прылятае натхнёная муза.

* * *

Чым прыгажэйшая муза,
Тым ёй бліжэй да Саюза.

* * *

Музу нельга ашукаць:
Ведае, каго абраць!

* * *

Звычайны рыфмаплёт нярэдка музу
Збіраецца паляпаць па плячы.
Ды час яго (пазбегчы каб канфузу)
Ад маніі вялікасці лячыць.

* * *

Музабагаты лавелас
Імкнецца з кожнай на Парнас.
Ах, невядома лавеласу,
Што музы гэтыя – да часу.

* * *

Празмернае натхненне –
Пагрозлівая рэч.
Яно ў адно імгненне
Прагоніць музу прэч.

* * *

Каб зноў натхненне адшукаць,
Пакінуў музу начаваць...

# ПАГРОЗА НУМАР АДЗІН



*Памфлет*

У норку Вожыка раптоўна пастукалі. З вуліцы пачулася:

– Адчыняй, Калючык, вясна прыйшла!

Гаспадар падышоў да дзвярэй і прамовіў:

– Калі толькі каляндарная! Хто гэта вырашыў зазірнуць да мяне?

– Гэта Вавёрка Рада і Сінічка Жаўтушка, – са смехам адгукнуліся госці.

Вожык запусціў сяброўак са словамі:

– Прыемна вас бачыць, даражэнькія! Я вось прачнуўся ад зімовай спячкі, але з норкі вырашыў пакуль не вылазіць. Холадна яшчэ, пачакаю веснавога надвор'я. Рады вам, раскажыце хоць, што здарылася за час, пакуль я спаў.

Вавёрка і Сінічка ўладкаваліся за сталом. Рада прамовіла:

– Ды многа навін, нават не ведаю, з чаго пачаць. Шмат здарэнняў было. Але мы прыйшлі папярэдзіць цябе. У час тваёй зімовай спячкі ў Беларусі пачасціліся выпадкі шаленства сярод нашых братоў.

– Так, прычым хварэюць як лясныя жыхары, так і гарадскія, хатнія жывёлы, – дадала Жаўтушка.

Вожык разліў па кубачках гарбату і сказаў:

– Нічога сабе! Патрабую падрабязнасцей і прыкладаў.

– Нядаўна ў Мінску з-за шаленства сабакі ўвялі каранцін ажно ў трох раёнах: Кастрычніцкім, Фрунзенскім і Маскоўскім. Спецыялісты санэпідэмслужбы адразу ж прынялі меры па недапушчэнні распаўсюджання хваробы. Выявілі ўладальнікаў сабак, якія маглі сутыкнуцца з разносчыкам інфекцыі. Нават прайшліся па кватэрах, прапанавалі вакцынаваць хатніх жывёл. Вось толькі некаторыя гаспадары адмаўляліся, маўляў, не трэба гэта нашым сабакам ды кошкам. Сама бачыла праз вокны ўсё гэта, – расказала Сінічка Жаўтушка.

– Шкада недарэку. Спадзяюся, больш ніхто не захварэе, – уздыхнуў Калючык.

– Не ведаю, сябра, – задумліва сказала Вавёрка Рада, – я хвалююся за нашых братоў, бо ўсё часцей да лесу даходзяць чуткі і пра іншыя выпадкі шаленства. Напрыклад, у пачатку года ў аграгарадку Путрышкі Гродзенскага раёна ў двары адной жанчыны знайшлі мёртвую лісу. Пазней высветлілася, што яна таксама была хворая. У мясцовасці быў аб'яўлены каранцін. А яшчэ адна ліса крыху раней пакусала дзевяць чалавек у Мазыры. У яе крыві таксама знайшлі вірус шаленства.

– Так, я яшчэ чула пра янота, які прыйшоў з лесу ў вёску Круглае Чачэрскага раёна. Быў такі міралюбівы, прыязны, да людзей ласціцца ішоў. Некаторыя пагулялі з ім, пагладзілі. З іх ніхто нават і не падумаў, што звярок хворы, – расказала сваю гісторыю Сінічка.

– Што ж гэта робіцца? Мне ўжо страшна выходзіць са сваёй норкі пасля вашых навін. Бедныя звяры, хатнія жывёлы і людзі. Ад гэтай напасці ніхто не застрахаваны, – забедаваў Вожык.

– Супакойся, Калючык, – лагодна прамовіла Рада. – Згодная, што сітуацыя з хваробай складаная, але ж можна сябе максімальна засцерагчы ад небяспекі. У лесе







Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ х 2.

нядаўна нават сход адбыўся, дзе нам расказалі, як зберагчы здароўе.

– Дык слухай, – узяла слова Жаўтушка, – шаленства праяўляецца ў некалькіх формах: абартыўная, атыповая, буяная і ціхая. Напрыклад, кот становіцца раптоўна занадта ласкавы. Ці наадварот – жывёла агрэсіўна на ўсё рэагуе, злуецца, а паводзіны нельга кантраляваць. Яна пачынае хавацца па кутах, баіцца дзённага святла, у яе пачынае моцна цячы сліна, можа назірацца параліч.

– Людзям раяць не падыходзіць да дзікіх звяроў, якія заходзяць на тэрыторыю населеных пунктаў, не спрабаваць злавіць іх рукамі, не падпускаць да іх дзяцей. Быць асцярожнымі з бяздомнымі сабакамі і катамі, якія могуць пераносіць хваробу, а хатніх жывёл абавязкова вакцынаваць ад шаленства. Мяркую, што і нам можна прыслухацца да такіх парад, – дадала Вавёрка.

– Карысная інфармацыя, дзякуй вам, мае дарагія сяброўкі. Я нават супакоіўся. А калі б і нам неяк атрымаць гэты цудадзейны ўкол ад хваробы, то гэта было б выдатна. Але ж лясных жыхароў, пэўна, уратуе толькі ўвага, – канстатаваў Калючык.

– Згодная, у такі небяспечны час мы ўсе павінны прыглядацца адзін да аднаго. Калі нават для людзей шаленства – смяротнае захворванне (зразумела, калі не лячыць), то для нас яно становіцца пагрозай нумар адзін, – зрабіла вывад Жаўтушка.

Сябры яшчэ доўга прыдумлялі розныя спосабы, як засцерагчы сябе ад хваробы. Але заўсёды прыходзілі да думкі, што ад такога няшчасця можа выратаваць толькі правільная недаверлівасць да ўсіх, хто побач.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Пётр КОЗІЧ.




# Святочныя назіранні

На небе самалёты
Выпісваюць васьмёркі,
Паўсюдна іх абрысы,
Куды ні кінеш зрок.
У лесе скачуць жвава
Вясёлыя вавёркі,
Васьмёрка за васьмёркай –
Па дрэвах скок ды скок!
І на шашы машыны
З'язджаць з кальца не хочуць,
Іх рухі па васьмёрцы –
Як віншавальны след.
Увечары дадому
Няроўна нехта крочыць –
І для яго ў васьмёрку
Скруціўся белы свет!

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.




Алег ГУЦОЛ.




## Хто гэта прыйшоў?

Алесь і Іра пазнаёміліся на працы. Потым пачалі сустракацца, а праз некаторы час ажаніліся. І зразумела, што на прадпрыемства і з яго заўсёды ездзілі разам.

Аднойчы Алесю давялося затрымацца на працы, а жонка пайшла дадому адна. Муж вырашыў скарыстацца выпадкам, забег у кветкавы магазін і набыў букет. Калі адчыніў дзверы кватэры, то Іра не выйшла яго сустракаць, а з кухні іранічна запытала:

– Ты ўжо прыпёрся?

А пасля, убачыўшы букет:

– Ой, як добра, што ты прыйшоў!

## Філасофскія разважанні

Ігар вельмі любіў яблыкі. А асабліва іх сярэдзінку – сарцавіну. Яго жонцы Ані, наадварот, падабалася сакавітая мякаць плода. Любімую ж частку фрукта мужа яна пакідала заўсёды яму.

І вось неяк сядзелі яны ўдваіх на кухні, жонка з задавальненнем грызла яблыкі, а Ігар з не меншым апетытам паглынаў агрызкі. Аня пачала разважаць:

– А ўсё ж такі мы падыходзім адзін аднаму! Вось бы заўсёды так – мне будзе даставацца верхняя частка, а ты будзеш даядаць тое, што застанецца...

На гэта Ігар, хрумстаючы агрызкам, моўчкі дастаў з вазы некалькі грэцкіх арэхаў і працягнуў іх жонцы...

Чамусьці тая не ацаніла такіх душэўных парыванняў.

## Скнара

У адной канторы працаваў Косця, які вылучаўся неверагоднай сквапнасцю. У яго не тое што лыжкі гарбаты не дапросішся, ён і снегу зімой бы пашкадаваў. І з гэтай нагоды калегі пастаянна мужчыну «падшпільвалі». Неяк Міша, усміхаючыся, падышоў і ялейным голасам спытаў:

– Слухай, а ты мне не пазычыш свой ноўтбук на выхадныя?

Сярод супрацоўнікаў пачулася дружнае хіхіканне. А Косця, не адрываючыся ад паперак, адказаў:

– Добра, бяры.

У паветры павісла нямая паўза, народ здзіўлена пераглянуўся...

– У панядзелак вернеш два, – спакойна дадаў Косця.

**Наталля ВАЯГА,**
*г. Мінск.*




Алег ГУЦОЛ.




Маці Вовачкі нарадзіла яшчэ і дзяўчынак-двайнят. Бацька кажа сыну:

– Скажы настаўніцы, што тыдзень не будзеш хадзіць у школу, і растлумач, чаму.

Назаўтра хлопчык вяртаецца са школы, і бацька яго пытае:

– Ну як, што табе сказала настаўніца?

– Яна павіншавала нашу сям'ю з нараджэннем дзіцяці.

– Як гэта – дзіцяці? – не зразумеў бацька. – Ты не сказаў, што ў нас двайняты?

– Так! Другую сястрычку я прыхаваў на наступны тыдзень.

**Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*






## Не займаць харызмы бацьку міранізмаў

Міхась МІРАНОВІЧ – адзін з нямногіх пісьменнікаў, які валодае сапраўды адметным індывідуальным гумарыстычным стылем. Яго вершаваныя мініяцюры пазнаюцца нават без подпісу. Кампактныя, але ў той жа час ёмістыя, з цікавымі і нечаканымі высновамі, яны лёгка запамінаюцца і настройваюць не толькі на вясёлы лад, але часам і на роздум. Харызматычнасць і абаяльнасць, уласцівыя Міхаілу Канстанцінавічу ў жыцці, нібыта пераносяцца і на яго творчасць. Можа, таму яе так упадабалі аматары трапнага гумарыстычнага слова?

Нягледзячы на тое, што будучы пісьменнік атрымаў дыплом радыёфізіка і ўсё жыццё аддаў працы па тэхнічных спецыяльнасцях, свае літаратурныя здольнасці хаваць ён не стаў. За што мы яму вельмі ўдзячны! «Міранізмы» (2002) і «Жартачкі» ў трох кнігах (2010–2015) – сапраўдная крыніца бадзёрасці і добрага настрою. А яшчэ ж Міхаіл Канстанцінавіч піша пародыі, робіць пераклады... Ад душы зычым нашаму сябру, які сёлета ў лютым адсвяткаваў сваё 70-годдзе, далейшага творчага плёну, моцнага здароўя і невычэрпнага аптымізму!

**Міхась МІРАНОВІЧ**

### Надзеі

Розныя, людцы,
Бываюць надзеі...
Ды і хто супраць?
Усе з тым згаджаюцца.
Кепска,
Калі паміраюць надзеі,
Горай, калі нават
Не нараджаюцца!..

### Хто на кабыле?

– Адкажы нам, дзядзька,
Не змані, –
Неяк мяне дзеці
Абступілі, –
Коннік – гэта той,
Хто на кані.
А як зваць таго,
Хто на кабыле?..

### Прыхоўваем узрост

З узростам цяжка нам,
Мужчынам,
Бо б’юць гады
У грыву, хвост!..
І зараз так,
Як і жанчыны,
Мы свой прыхоўваем
Узрост.

### Віза на пенсію

О, як даўно
Гэта было –
Вясна, дзяўчаты
І кіно!
А ўжо на пенсію
Ёсць віза –
Канапа, жонка,
Тэлевізар...

### Цярпення нестае

Я вам так скажу,
Сябры мае:
Доўгажыхарамі
Хочам быць.
Многім жа
Цярпення нестае
Да глыбокай старасці
Дажыць.

### Учора і сягоння

Нашы дні
Так хутка праляцелі,
І нічым
Сабе не дапаможам.
Яшчэ ўчора
Многае не ўмелі,
А сягоння –
Многае не можам.

### Жанчыны ўсе прыгожыя

Сівеем, хлопцы,
Пакрысе,
Становімся
Нягожымі.
Ці не таму
Жанчыны ўсе
Здаюцца нам
Прыгожымі?

### Жаданне і рэальнасць

Я ведаю,
Што не адбыцца цуду
(Хоць верыць у дзівосы
Не кідаю):
Хачу быць маладым,
Але не буду.
Старым жа буду,
Хоць і не жадаю...

### Узрост не пускае

Раней да дзевак
Маці не пускала –

Сядзеў я ў хаце,
Прышчаміўшы хвост.
Затым мне жонка
Перашкодай стала...
А зараз не пускае ўжо
Узрост.

## Не так зразумела

Я пазнаёміцца
З дзяўчынаю хацеў –
З той, што ў трамваі
Пазірала міла.
На прыгажуню
Толькі паглядзеў –
Яна мне моўчкі
Месца саступіла.

## Паэзія і проза

Розніцу
Паміж імі знайду,
І вы мусіце
З тым пагадзіцца:
Вершы пішуцца
І на хаду,
А за прозу
Патрэбна садзіцца.

## Бывай, Пегас!

Мы жыццё сваё
Мяняем з часам,
І сярод паэтаў
Многа хто
Развітаўся назаўжды
З Пегасам,
Перасеўшы шпарка
У аўто.

## Прозвішча і імя

Меціш у паэты,
Мастакі?
Дык надзейна,
Дружа мой, уцям:
Прозвішча
Даюць табе бацькі,
А імя
Ты робіш сабе сам.

## Карацелька

Запытаў таварыш
У Амелькі:
– А чаму ты
Пішаш карацелькі?
У адказ той:
– Што ўжо тут круціць –
Каб не змог рэдактар
Скараціць!

## Гора-гумарысты

У гумарысты
Пруць упарта
І лепяць вершыкі
Наспех.
Што піша першы –
Смеху варта,
Ну, а другі –
Курам на смех.

## Не ў хвасце

Хаця даўно
Пішу ўжо вершы,
Сярод паэтаў я –
Не першы.
Ды вера,
Разам з тым, расце,
Што ў спісе тым я
Не ў хвасце.

## Часопісу «Вожык»

Я да цябе
Шукаў свой ключык,
І зараз рады,
Браце колкі,
Таму,
Што між тваіх калючак
Ёсць і мае
Дзве-тры іголкі!

## Літаратурны анекдот

У драматурга з жанчынамі –
Драма,
А ў раманіста –
Раманы штогод.
Тут і сябе
Я згадаю таксама:
Толькі ж вось што ў нас
з табой –
Анекдот?..

## Канец і пачатак

Хоць ёсць сумненне
Іншы раз,
Але лічыць
Так павялося:
Жыццё не скончыцца
На нас,
Бо не ад нас
І пачалося.

## Адкуль і куды?

Цікавіць нас
Каторы век:
Адкуль паходзіць
Чалавек?
Чамусь турбуе менш
Людзей:
Куды той чалавек
Ідзе?

## Калі адкрываюцца вочы?

Хочаш гэтага ты
Ці не хочаш –
Марна нервы на тое
Псаваць:
На жыццё
Раскрываюцца вочы,
Калі час
Іх ужо закрываць.

## Спрэчная ісціна

Як даўно
Разумнымі сцвярджаецца,
Ісціна
У спрэчках нараджаецца.
Толькі,
Па традыцыі адвечнай,
Тая ісціна
Бывае спрэчнай.




## Слынны майстар эзопавай мовы

*Байкі Эдуарда ВАЛАСЕВІЧА (1918–1997) у свой час былі не менш вядомыя, чым творы Кандрата Крапівы, і перадаваліся з вуснаў у вусны. Нямногія ведаюць, што ў літаратурнай скарбонцы пісьменніка – лірычныя вершы, санеты, пераклады, творы для дзяцей... Аднак шырокаму колу чытачоў ён вядомы перш за ўсё як паэт-байкапісец.*

*Выступаць у друку Эдуард Станіслававіч пачаў яшчэ да вайны, будучы студэнтам Магілёўскага педінстытута. Змагаўся на франтах Вялікай Айчыннай, атрымаў баявое раненне. У пасляваенны час выкладаў фальклор і рускую літаратуру, працаваў у часопісе «Полымя», у Белдзяржфілармоніі. Лепшыя вершы і байкі змяшчаў у «Вожыку», быў яго супрацоўнікам. У «Бібліятэцы» часопіса пабачыла свет яго кніга «Як дбаеш, так і маеш» (1958).*

*Аўтар выдаў больш за дзясятак зборнікаў баек – «Залатая рыбка» (1957), «Арліны суд» (1959), «Соль» (1962), «На вясёлай хвалі» (1967), «Казёл адпушчэння» (1968), «Туды і рак з кляшнёй» (1970), «Сур'ёзна і з усмешкай» (1973), «Рагаты анёл» (1978), «Кругавая парука» (1979), «Бегемот і іншыя» (1982), «Яечня на далоні» (1984)... У тым, што дасціпныя творы пісьменніка не губляюць актуальнасці і сёння, лёгка пераканацца, пачытаўшы хаця б некаторыя з іх.*

**Эдуард ВАЛАСЕВІЧ**

### Бацян і Жаба

*Байка*

На Бацяна ўзлавала Жаба –
Ён галавасцікаў яе ў балоце
паглытаў:
– Ну, пачакай! Вазьму цябе
за скабы!
Каб жыць ты мне не замінаў...
Вось толькі вырастуць хай зубы,
Тады ўжо, даўгадзюбы,
З табою расквітаюся спаўна,
Прыпомню кожную і крыўду,
і знявагу...
І, ўскочыўшы на пень-карчагу,
Цярпліва пачала чакаць яна,
Пакуль у роце вострыя
павырастаюць зубы...
Ды прыкархнула. А тут нагнала
Бацяна.
І трапіла Жабоцька птаху ў дзюбу.
***
Даўно вядома нам:
Хто некаму рыхтуе згубу –
Ў бяду трапляе сам.

### Эстэт і Пчала

*Байка*

Эстэт з паненкаю рабіў у лузе
праменаж.
Ішоў і ўзнёсла захапляўся:
– Зірні, каханая, які вакол
пейзаж!
А як жаўрук у небе расспяваўся!
А колькі кветак! Васількі,
Званочкі і рамонкі!
А водар казачны які!
І хмельны, і хвалюючы, і тонкі...
І побач ты –
Узор лагоды, хараства і пекнаты!
І вусны твае пахнуць мёдам...
І кружаць галаву...
Ах-ах! Якая асалода!
Давай прысядзем на траву,
Нас у абдымкі кліча родная
прырода!
Бач, конікі, стракозы, матылі
Вясельны баль спраўляюць...
Жывем для радасці мы на зямлі!
А пчолкі-працаўніцы нам мядок
збіраюць.
І ўзрушаны Эстэт,
Сарваўшы квет,
Паднёс яго да носа задуменна...
Ды тут патурбаваная Пчала

Імгненна
Эстэта балбатлівага ў шчаку
ўпякла!
– Ах, поскудзь, свалата,
брыдота! –
Пчалу ён прыдушыў. –
Як погань гэтакую бог стварыў?!
А вось табе! А вось, мярзота! –
Яе ў зямлю ўтаптаў ён ботам.

***
Пчалу шкада!
Яна ад рання да цямна шчыруе,
І не даруе,
Калі якісьці блазан ці брыда
Нектар збіраць ёй замінае,
Яна ў ход джала, як кінжал,
пускае.

*«Бегемот і іншыя», 1982 г.*




Нашы хлопцы гонар маюць
Ды дзяўчат перабіраюць.
Прыйдуць сталыя гады –
Скардзяцца на лёс тады.

* * *

Ненаглядны мой Алёша,
Кавалер ты неблагі.
Ды, на жаль, скупы на грошы,
З табой скіснеш ад тугі.

* * *

Не сумуе дзед Макар,
Ходзіць з бабкай парыцца.
Пастарэў на цела, твар,
А душа не старыцца.

* * *

Я хлапчына – проста зух!
І кахаю дзевак дзвюх.
А каб болей грошай меў,
То яшчэ б пяцёх прыгрэў!

* * *

Пакахала я Антошу,
З выгляду – бы Апалон.
Ды ў яго кішэні грошай
Не хапае на талон.

* * *

Маю востры язычок,
Нос – нібыта пятачок.
І за мною – хлопцаў рой,
Бо люблю ствараць настрой.

* * *

Прыгажуні ў нас кабеткі,
Ледзь зірнеш – знікае злосць.
І прывабныя, як кветкі,
І кахаць за што іх ёсць.

* * *

Хоць заўсёды я ў настроі,
Шыць магу, вязаць, мясці,
Ды дасюль пра мужа мрою...
Толькі дзе яго знайсці?

* * *

Пакуль прынца я чакала
На кані з Італіі,
Сала, дранікі таптала –
Распаўнела ў таліі.

* * *

Кіньце, хлопцы, піць гарэлку,
Лепей – каву, ліманад.
З перапою і пахмелкі
Не ўгаворыце дзяўчат.

* * *

Разліваецца вадзіца
З поўнага вядзерца.
Па прыгожай маладзіцы
Млее маё сэрца.

* * *

Маю чым я пахваліцца,
Не зважаючы на ўзрост:
Што фігура, што спадніца –
А ты крывішся, прахвост!

* * *

Я б да ночы вам спявала,
Весяліла б вас яшчэ.
Гарманісту веры мала –
Да суседкі уцячэ!

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*


Пётр КОЗІЧ.

ПАЧЫТАЙЦЕ ДЗЕЦЯМ!

# ПАН і ХЛЕБ



*Казка*

Для беларусаў хлеб – не проста харчовы прадукт, што выпякаюць з жытняга цеста, а сапраўдны талісман, без якога не садзяцца за стол. І калі нават маленькі кавалачак падае на падлогу, яго асцярожна падымаюць і просяць прабачэння, каб хлеб не пакрыўдзіўся. Пайшла гэтая прыкмета пасля такога здарэння.

У даўнія часы жыў адзін пан. Ён быў дужа багаты, меў самы прыгожы маёнтак на ўсю ваколіцу, у канюшні ягонай стаялі шпаркія скакуны, а ў садзераслі дзіўныя, экзатычныя дрэвы, на якіх сядзелі незвычайныя птушкі і спявалі цудоўныя песні. Самыя лепшыя кухары гатавалі яму ежу. І нават жонка ў пана была неверагодная прыгажуня. Неяк прыехалі да яго замежныя госці. Вось сядзяць усе яны на тэрасе, абедаюць.

– Частуйцеся, калі ласка, госцейкі даражэнькія! – запрашае ўсіх пан. – Ацаніце нашу кухню беларускую. Верашчака, зацірка, мачанка з блінамі, дранікі, кугель з гародніны.

Уплятаюць прыезджыя стравы за абедзве шчакі. І раптам у аднаго з іх выслізнуў з рукі хлеб. Нахіліўся госць, каб падняць, а пан яму:

– Не турбуйся, даражэнькі. Чаго-чаго, а хлеба ў нас хапае,– ды адшпурнуў той кавалачак нагою пад стол.

На другі дзень, як толькі паехалі госці дадому, да пана прыбегла прыслуга і пачала жаліцца са слязамі на вачах:

– Не ведаем, што здарылася! Зусім збожжа не засталося, ні мукі жменькі, ні зярнятка. Нават не ўяўляем, як гатаваць і чым жывёлу карміць.

Узгадаў тады пан, як ён з хлебам абышоўся. Палез пад стол. Дастаў той кавалачак і пачаў плакаць.

– Ну, што? Хто з нас пан, ты ці я? Зараз жа прасі прабачэння, – прамовіў хлеб.

Стаў пан на калені перад тым кавалачкам і паабяцаў, што больш ніколі не зняважыць яго, здабытага працай і потам. З той пары і павялося хлеб паважаць і дзякаваць яму.

**Лёля БАГДАНОВІЧ,**
*г. Барысаў.*




Бацька корміць Ірачку (3 гады) з лыжкі і ўгаворвае:

— Ну, давай за маму, за цётку Валю!

Дачушка жуе хвілін пяць, бацька зноў кажа:

— Давай цяпер за цётку Любу!

Ірачка, паказваючы пальцам на свой поўны рот, кажа:

— Пачакай. Там яшчэ Валя.

* * *

Каці было 2 гады. А гэта перыяд уласніцтва, калі ўсё «маё» — мой гаршчок, мая талерка, мае цацкі і г.д. Гуляе з татам у двары. Тата дражніць дзяўчынку:

— Маё дрэва!

— Не, гэта маё дрэва! — ледзьве не плача малая.

— Мая лаўка!

— Не, гэта мая лаўка!

— Мая гідраэлектрастанцыя! — з усмешкай гаворыць тата і чакае, як дзяўчынка адрэагуе на цяжкае і незнаёмае слова.

Каця падумала-падумала і з прытворнай абыякавасцю адказала:

— А мне яно і не трэба!

* * *

Дзіма (4 гады) разгортвае цукерку.

— Сын, падзелішся са мной? — пытае маці.

— Не. Я не магу!

— Чаму?

Хлопчык з задаволеным выглядам:

— Таму што я скнара!

— А хіба гэта добра — быць такім? — здзівілася маці.

— Ну... — даядаючы цукерку.— Нядрэнна!

* * *

У маленькага Севы (3 гады) правяраюць слых у паліклініцы. Доктар шэптам:

— Цукерка.

Хлопчык ціхенька ў адказ:

— Мне нельга, бо алергія...

* * *

Выхавацельніца пытаецца ў Віцюшы:

— Вы трымаеце якіх-небудзь жывёл?

Той горда адказвае:

— Так! Котку і марожаную скумбрыю!

* * *

Маці заходзіць у пакой і бачыць, што трохгадовы сын ляжыць у крэсле і плача.

— Што здарылася, мілы?

— Мульцікі надакучыла глядзець!

* * *

Сын (6 гадоў) сядзіць і есць суп без энтузіязму. Маці пытаецца:

— Смачна?

— А хто гатаваў?

— Я.

Сын, уздыхнуўшы:

— Тады смачна.

* * *

— Мама, я піць хачу. Толькі не малако і не гарбату. Кампот або сок. А лепш шакаладку!

* * *

З мужам прынеслі дамоў два гранаты. Дзіця зачаравана:

— О, якія шыпшыніны!

* * *

Выпаў першы снег. Пяцігадовы сын закрычаў: «Ура, зіма прыйшла!» — і тэрмінова папрасіўся на вуліцу. Тата вырашыў схадзіць у краму і ўзяў яго з сабой. Прыйшлі. Заходзіць тата і кажа:

— Фу, якое дрэннае надвор’е. Усё цячэ, слізка! Вова ажно два разы ўпаў!

Заходзіць сын і радасна дакладвае:

— Якое там добрае надвор’е! Так слізка, я ажно два разы ўпаў!

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Тамара РАДАВАНАВІЧ.

## Увагі варты Янусёвы жарты

КНІГАРНЯ «ВОЖЫКА»






*Не сакрэт, што не так многа беларускіх пісьменнікаў сёння актыўна працуе на гумарыстычнай ніве. Рассмяшыць чытача — задача не з простых. Аднак Янусю (Івану Вільгельмавічу) МАЛЬЦУ яна па плячы. Камічны эфект яго твораў неаднаразова быў правераны і намі, супрацоўнікамі рэдакцыі, і ўсімі сябрамі «Вожыка». Таму з асаблівай радасцю мы сустрэлі нараджэнне цэлай кнігі гумару нашага пастаяннага аўтара — «Галава — не вядро, альбо Ё-маё!», якая пабачыла свет у сталічным выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў пачатку года. Сабраныя тут гісторыйкі, апавяданні, фельетоны, гумарэскі былі напісаны і апублікаваны ў рэспубліканскай перыёдыцы ў розныя часы. Адпаведна яны адлюстроўваюць і рэаліі сённяшняга дня, і падзеі хай сабе недалёкага, але мінулага. Бясспрэчна, іх аб'ядноўвае тонкая аўтарская іронія, жыццёвая назіральнасць ды пільная ўвага да слова. Прапануем у чарговы раз ацаніць талент гумарыста і вам, шаноўныя чытачы.*

**Янусь МАЛЕЦ**

# Строгая камісія

*Гумарэска*

— Заўтра, Мітрафаныч, да нас прыедзе прадстаўнічая камісія, — аб'явіў галоўны інжынер ЖЭСа сантэхніку Прышчэпкіну. — Я вылучыў тваю кандыдатуру для ўдзелу ў конкурсе на лепшую падрыхтоўку ацяпляльных вузлоў да зімовага сезона. Ведаю, што ты папрацаваў сумленна, але яшчэ раз усё правер.

Пасля гэтай ранішняй размовы Прышчэпкін да вечара корпаўся ў цеплавузлах, правяраючы кожны вентыль, манометр, кожную засаўку... Усё працавала надзейна.

Вечарам ён сустрэў на падпітку Міхуткіна, калегу з суседняй ЖЭС. Высветлілася, што яго кандыдатуру таксама вылучылі на ўдзел у конкурсе.

— Толькі ў мяне амаль усе вентылі не перакрываюць ваду, — прызнаўся Міхуткін. — Адрамантаваць не было калі з-за гэтага самага, — пстрыкнуў ён пальцамі па шыі. — Не дай божа, паспрабуюць адкрыць вентылі — патоп!..

Камісія з'явілася на наступны дзень перад абедам. Лысы мужчына салідна запытаў:

— Дакументацыя ёсць?

Пытанне гучала так, быццам гэтая дакументацыя — самае галоўнае ў ацяпленні дома.

— На дзвярах, — спакойна адказаў Прышчэпкін.

Усе дружна павярнуліся да дзвярэй. З чвэрць гадзіны разглядалі схему вузла, гарталі сшытак паказанняў кантрольных і замяральных прыбораў. Затым пачалі разглядаць сцены, столь...

— Так-так, — паківаў галавой лысы мужчына і шапнуў штосьці другому. Той сказаў: «Ага!» і перадаў нешта на вуха трэцяму, трэці — чацвёртаму, чацвёрты — пятаму... Пашаптаўшыся, усе дружна пакінулі цеплавузел.

Назаўтра Прышчэпкіна выклікаў галоўны інжынер.

— Ну, як жа так? — у яго вачах быў вялікі смутак. — Аддаць першае месца Міхуткіну!

— Каму?! — Мітрафаныч адчуў, што вочы лезуць на лоб. — У яго ных цеплавузлах любы вентыль пакруці — адразу патоп пачнецца!

— Затое ў Міхуткіна чыста, няма павуціння!

Прышчэпкін зразумеў: «Вось чаму яны ўтаропіліся на сцены і столь!» Пайшоў у цеплавузел. І сапраўды, калі добра прыгледзеўся, у кутку пад столлю заўважыў густа сплеценую сетку. Калі б у той момант там быў павук, яму давялося б плесці павуціну на тым свеце...

Пасля працы Мітрафаныч зноў сустрэў Міхуткіна. Не стрываў, каб не спытаць:

— У цябе што, павуціння няма ў цеплавузлах?

— Было і ёсць, поўна!

— А як жа камісія яго не заўважыла?

— А ў тым цеплавузле, куды яны пайшлі, я яго якраз змёў. Сто гадоў бы не чапаў, — засмяяўся Міхуткін, — ды пазаўчора гайку разжковым ключом адкруціць хацеў, а той, сарваўшыся, завіс у павуцінні. Ну, я са злосці і змахнуў венікам.

## Янусельki-карацелькі

І дагэтуль чалавецтва ніяк не можа вырашыць, што было першым: яйка ці курыца. На самой жа справе ўсё пачалося з пеўня.

Калі мужчына шкадуе грошы на гарэлку, то ў мінулым жыцці ён, хутчэй за ўсё, быў жанчынай.

Гультай – гэта той, хто ездзіць на ліфце з першага паверха на другі і абураецца, што ў ім няма сядзенняў.

Мужчына з пачатковай адукацыяй, без асабістай жыллёвай плошчы, які пяць разоў сядзеў у турме, шукае сур'ёзную жанчыну з вышэйшай адукацыяй і сваёй кватэрай для стварэння моцнай сям'і.

Сумяшчаў і спорт, і спірт. У выніку ператварыўся са спартсмена ў спіртсмена.

Чым пазней вячэра, тым хутчэй сняданак.

Міністэрства здароўя папярэджвае: не вывучайце цэннікі ў магазіне без валідолу.

**Янусь МАЛЕЦ**




У піўным бары:
– Вам паўтарыць?
– Ну, калі не цяжка.
– Зноў кажу: ідзіце ўжо адсюль, бар зачынены!

**Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*




Пётр КОЗІЧ.

## Нічыпар ШЭРАНЬКІ

### З сучаснага

За ракою – не даплыць –
Беражок высокі.
Там са спінінгам стаіць
Хлопец адзінокі.

Ды не блешню бачыць ён,
А страху за брамай.
Позіркам – ля тых акон,
Што за рэчкай самай.

Там каторы дзень ужо
Ўнучка гарадская
З хаты – боязна вужоў! –
Нос не вытыркае.

Як пабачыла – хлапец,
Дык павесялела.
І з расчыненых сянец
Да вады йдзе смела.

Закурыла. Юнаку
Тыркнула цыгарку.
Падхапіла пад руку,
Павяла на чарку.

Ён не з холаду дрыжаў,
Бліснула фіранка...
Аж да раніцы стаяў
Спінінг каля ганка.

16+

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс

№ 3 (1554), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 07.03.2018. Фармат 60x84 $^1/_8$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,26. Тыраж 877 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект». ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.









Тамара РАДАВАНАВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА х 2